На правох рукапісу.

# ЗОЛАК

ОРГАН МАЛАДОЙ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ДУМКІ

ГОД I ВІЛЬНЯ СТУДЗЕНЬ 1933 №1



## АД РЭДАКЦЫІ.

У цяжкі час існаваньня беларускага руху распачынаем мы выдаваньне свае саматужнае часопісі. Цяперашняя пара ў нашым руху – пара ўсеагульнага расчараваньня і недавер'я. Часы падёму, калі народ верыў у хуткае зьдзейсьненьне сваіх ідэалаў, ужо мінулі. Народ ашукаўся ў сваіх правадырох і іх закліках, так што цяпер ня так лёгка скрануць яго да чыну.

I зусім зразумелым становішча, дзеля чаго, пры агульным уздойме нацыянальнае і сацыяльнае сьведамасьці ў народзе, зьмяншаюцца арганізаваныя яго шэрагі. Пэўне-ж кожнаму ведама, як гэта сталася. Адно толькі трэба сыцьвердзіць, што беларуская інтэлігенцыя не аказалася на вышыні свайго становішча: з свайго асяродзьдзя яна не змагла выдзяліць належныя кадры узапраўдных правадыроў і арганізатараў народу.

Тыя-ж правадыры, што ставалі на чало народных арганізацый, не адпавядалі свайму прызначаньню, бо ня мелі сталага і яснага сацыяльна-палітычнага сьветапагляду. Яны ня толькі не паказвалі ўзапраўдны шлях, але й самі ня ведалі куды ісьці. Гэтым толькі і можна тлумачыць лёгкасьць у зьменах арыянтацый нашых дзеячоў. Учора такі наш дзеяч служыў аднаму пану, а сёньня служыць ужо другому, учора разбурваў усё, што вымагалася першым, а сёньня нішчыць усё што хоча другі.

Зразумела, што пры такім палажэньні беларускі адраджэнскі рух расьцярушыўся і не прадстаўляе сабою паважнае грамадзкае сілы. Вось-жа, каб гэткім зьявішчам ня было больш

мейсца ў будучыне, каб у нас усьцяж выдзялялася здольная і патрэбная беларускаму народу інтэлігенцыя, трэба, каб беларуская студэнская моладзь не пераймала мэтадаў грамадзкае працы нашых старых правадыроў, якія на гэта не заслужылі, а пачала сыстэматычную працу над утварэньнем ясна-акрэсьленага сацыяльна-палітычнага і філязофскага сьветапагляду. Да гэткае працы заклікаем мы, як сваіх калегаў студэнтаў, гэтак і наагул усю беларускую думаючую моладзь. Гэтай мэце будзе служыць і наша часопісь „ЗОЛАК".

## КУДЫ ІДЗЕШ, БЕЛАРУСКІ СТУДЭНЦЕ ?

Сіла і значэньне якога-небудзь народу залежыць ад ступені яго культурнага разьвіцьця, аднэю з мерак якога ёсьць параўнаўча колькасны і якасны стан інтэлігенцыі. Найбольшую ролю ў тварэньні інтэлігенцыі адыграе студэнства. Будучы цесна зьвязаным безьліччу розных інтарэсаў з сваім народам, яно, пашырыўшы і ўгрунтаваўшы на ўнівэрсытэце сваю сярэдняшкольную веду, скрышталізаваўшыся з лятэнтнае масы ў індывідуумаў, стае, урэшце, арганізатарам палітычнага, культурнага і гаспадарчага жыцьця народу. Аднак зродканая інтэлігенцыя, у сутнасьці, не складае асобнае сацыяльнае групы, а разьліваецца па існуючых сацыяльных клясах, выклікае іх да жыцьця, калі яны яшчэ не праявілі свае чыннасьці. У гэтым палягае сацыяльна-гістарычнае заданьне студэнства, у гэтым хаваецца і сэнс яго існаваньня. Дзеля гэтага, якое ёсьць студэнства, гэткая будзе і інтэлігенцыя, гэткія будзе мець адзнакі культурнасьці і народ, да якога яно прыналежыць. Чым на вышэйшае інтэлектуальнае разьвіцьцё здабудзецца студэнства, тым больш шансаў ёсьць за тое, што вышэй падымецца і культурны ўзровень усяго народу.

І мы ўзыйшлі на шлях фармаваньня свае інтэлігенцыі. Да кшталтаваньня яе з студэнскае грамады ў значнай меры спрычыняецца рознае патранацтва, ідэйная або матэрыяльная залежнасьць ад акрэсьленых груп, або, урэшце, і зусім самастойны узнік пэўных ідэалегічных груп - кірункаў. Разам з тым з усёю стыхійнасьцю праяўляецца засада: у арганізаванасьці сіла !-

Сёньня на віленскім бруку існуюць дзьве студэнскія арганізацыі - „Беларускі Студэнскі Саюз" і Карпарацыя [illegible]. Калі першая арганізацыя - кангламэрат розных асобаў, дзе нават і

групаў, яшчэ ня зусім самаакрэсьленых, дык другая- Карпарацыя "Scorinia",- як больш рухавая, дасьціпная, ужо належным чынам пастаралася выявіць сваё абліччa. Калі ў адношаньні да першае могуць быць надзеі, што яна чымсь яшчэ абрадзініцца, што што з яе штосьможа вырасьці і новае,- няма мейсца гэтаму ў адношаньні да другой,- тая закончыла свой кругабег усеcакобага фармаваньня

"Scorinia" - зусім своеродное зьявішча на нашым студэнскім грунце як па форме, гэтак і па зьместу. Яна перадусім заснавана на складанай традыцыі няроўнасьці ў адношаньні да сваіх сяброў, пры абсалютным ігнараваньні ў сваіх радох жаноцкага элемэнту, што ясна сьведчыць аб антыдэмакратычным характары гэтае арганізацыі. Вонкавыя аксэсуары Карпарацыі — шпагі, сьцягі, шырокія стужкі праз грудзі, кшталтам "свадебных генералов" і г.д. — зьяўляюцца як-бы дапаўненьнем іх антыдэмакратызму. Карпарацыя стаіць у поўнай супярэчнасьці з беларускім рухам, які нясе ў сабе элемэнты ўзапраўднага дэмакратызму і які толькі пры ўмовах зьдзейсьненьня шырокага дэмакратызму |палітычнай дэмакратыі| зможа моцна стаць на ўласныя ногі і памысна разьвівацца далей.

Згодна з "веением" часу ідэолёгі Карпарацыі цьвердзяць, што ў нас "сёньня ўсё мусіць сьціхнуць", як-бы знарок забываючыся аб тым, што і так ўжо ўсё сьціхла.. "Трэба - кажуць - мабілізаваць нашыя культурныя сілы. Сёньня адна беларуская школа, адзін беларускі матурыст - гэта больш чымся найдалей ідучы палітычны максымалізм[1]| Гэта значыць, прапануецца ўсім удзельнікам беларускага руху заткнуць вушы, зачыніць вочы на ўсё, што навакол нас дзеецца, сьціснуць зубы і намагацца ўтрымаць "хоць адну школу", каб там культываваць "моцныя нэрвы". |Што-ж, яшчэ маем дзьве гімназіі,-на адну заўсёды хопіць.|. Прапануецца нам адмовіцца ад усяго, што зьяўляецца адзнакай кожнага жывога арганізму,-ад самаабароны, ад палітычнае барацьбы. Тут выяўляецца ня толькі поўная ўгадоўшчына, але і поўнае ігнараваньне сутнасьці беларускага адраджэнскага руху, моцнага, уласна, сваім сацыяльна-нацыянальным антаганізмам. Ігнараваньне апошняга - самагубства руху. Зусім нармальным ёсьць і той факт, што ўгадоўшчына ня можа здабыцца ні на што большае, як толькі на запэўненьне ў ляяльнасьці да дзяржавы.[2]|

---

[1] "Novaja Varta", Časapis Bielaruskaj Studenskaj Korporacyi „Scorinia", №2, st. 3, Vilnia, 1932.

[2] „Novaja Varta", Časop. Biel. Stud. Korporacyi „Scorinia", №1, 1931.

Усе гэтыя перлы "скарынінцы" чэрпаюць, бязумоўна, не са сваіх інтэлектуальных скарбніцаў,- гэтым яны абдораны ў вялікай меры сваімі шэфамі - стаўпамі Карпарацыі. Сваею маўклівасьцю "духовыя бацькі" толькі сьцьвярджаюць слушнасьць засадаў сваіх "гадунцоў". Дый яны, урэшце, нічога ня могуць інакш і рабіць, бо Карпарацыя з цела, косьці і крыві іх дзіцё, вынік іх 25-х гадовай "шлюбнай" працы-сужыцьця з беларускім рухам. Карпарацыя - новая зьмена старых "ідэйных правадыроў" беларускага руху, філістраў "Скарыніі".

Але мы ня можам узнаць, што патэнтаваныя здавён-даўна "ідэйныя правадыры" ёсьць узапраўды ідэйнымі правадырамі. Узапраўдныя ідэйныя правадыры народу ніколі не выракаліся раз прагалошаных сваіх засадаў, ідэалаў, а ў змаганьні за зьдзейсьненьне іх нават і гінулі. У нас-жа вельмі часта са зьменай палітычнае канъюнктуры лёгка зьмяняліся і ідэалы "правадыроў". Яны з лёгкім сэрцам і душой кідалі свае старыя пераконаньні і хапаліся за новыя, зусім выпадковыя. Адсутнасьць акрэсьленых засадаў сацыяльна-палітычнай працы "старых барацьбітоў за беларускую справу" па раджала іх апартунізм і была галоўнай крыніцай непаводжаньняў у разьвіцьці беларускага руху.

У выніку метадаў грамадзкае працы нашых "ідэйных старых барацьбітоў за беларускую справу" |а сьледам за імі маніцца ісьці і спадкаберніца іх "новая варта"| мы маем тое, што сёньня варожаю сілай зьнішчаны амаль усе канкрэтныя здабыткі напорыстага ўздойму вызвальна-адраджэнскага руху беларускіх працоўных грамад,- мы вярнуліся ізноў на свае старыя папялішчы з часу перад 1905 годам.

Бязумоўна, можна яшчэ ў хвіліны урачыстасьці прыкрывацца тогай барацьбітоў за незалежніцкія ідэалы, тогай змагароў за патаптаныя правы беларускага народу, але запэўненьням іх ужо больш ніхто ня дасьць веры. Рух шырокіх беларускіх мас ужо выйшаў з-пад зачарованасьці іх правадырства, ідзе міма іх, і, з пэўнасьцю можна сказаць, не патрабуе над сабою больш іх апекі. Скідаючы з сябе гэтую апеку і разьвітваючыся з старою зачарованасьцю, ёсьць надзея, што беларускі рух гэтым самым стане на шлях свайго нармальнага разьвіцьця і хутчэй зможа наблізіць час рэалізацыі сваіх ідэалаў.

Праўда, не ўсяго толькі сьвету, што ўваконцы нашых ідэйна-арганізаваных паляна філаў і іх нашчадкаў. Ёсьць у нас і іншыя к і р у н к і

думкі, хоць-бы, прыкладам, хадэкі. Яны, ня ў прыклад другім, грунтуючыся на яона акрэсьленай ідэолёгіі,- праграме і тактыцы,- вядуць сыстэматычна-арганізацыйную, як палітычную, гэтак і культурна-асьветную працу. Уплывы і рады беларускай хадэцыі павялічваюцца. Але трэба прызнаць за бясспрэчны факт, што рост і уплывы іх вельмі аднаснага характару. І пры найбольшых высілках яны ніколі ня змогуць асягнуць таго, каб пацягнуць за сабою большасьць жывых сіл беларускага руху: рост і уплывы іх спыняе і будзе спыняць канСЬцельна-мяшчанскі ідэалізм. Дый урэшце, у той час, калі жывая людзкая думка усюды канчаткова вызваляецца з няволі аўтарытарызму думаньня, цяжка, забойта было-б не жадаць гэтага і нашаму руху. Нават у тых краінах, дзе аўтарытарызм, зьвіўшы сабе моцныя гнёзды, змог стаць рашаючым чыньнікам у барацьбе за дзяржаўную незалежнасьць, як, прыкладам, у Літве, ён і там ужо пакананы, страціў дасюлешнія свае сілы і ўплывы. Наша маладая інтэлігенцыя ня можа шукаць свайго ідэалу ў клерыкальным камплексе грамадзкіх сіл, нат калі-б ён убіраўся ў што найрадыкальнейшыя сацыяльна-палітычныя шаты, бо усё роўна ён ніколі не пазбудзецца свае аўтарытарна-мяшчанскае сутнасьці.

Не па дарозе і з іншым чыньнікам, бальшавіцкім, які усьцяж раскладае, нароўне з паляна-фільскім, вызваленча-адраджэнскі беларускі рух у Заходняй Беларусі. Лаючы аднолькавыя карэньні паходжаньня з палянафільскім,- ападзяваньні на панскую добразычлівасьць,- гэты кірунак выкоўвае настроі незадаваленьня, сучасную бязвыхаднасьць беларускіх працоўных грамад, для маскоўскага чырвонага імпэрыялізму, вярбуе за ўсякую цану сілы для абароны С.С.С.Р., зусім ня дбаючы аб істотных патрэбах працоўных Беларусі.

Кожная дзяржава, у сваей сутнасьці, есьць праявай прымусу, насільства над чалавекам. Калі-ж да таго лад гэнае дзяржавы заснаваны на с ы с т э м е прымусу і насільства, дык гвалт над індывідуумам, як і над усім грамадзкім калектывам, прыбірае зусім нячувана-жахлівыя формы, з якімі ня можа пагадзіцца жывы чалавек. Дыктатура пралетарыяту /які у нашых умовах складае нікчы процант агулу!/, паскольку яна заснавана на с ы с т э м е прымусу і гвалту нязначнай меншасьці над вялічэзнай большасьцю працоўных, замест канчатковага вызваленьня народу ад напластаваньняў прыгоньніцтва, фактычна аднаўляе апошняе. Якія-б ні былі крыніцы па

ходжаньня гэтае „дыктатуры пралетарыяту", яна заўсёды будзе адменай старой праявы абсалютызму і аўтарытарызму. І калі сутнасьцю поступу ёсьць поўнае вызваленьне людзкога духа з чыну з кайданаў няволі аўтарытарызму /аб гэтым сьведчаць імёны Джыйордано Бруно, Гуса, Галілея ды інш./, вынікам чаго толькі і стаўся магутным размах сучаснай эўрапэйска-амэрыканскай культуры, дык ня можам мы, спадкаберцы зусільляў лепшых людзей усіх часоў і народаў, ізноў вяртацца да цёмнае мінуўшчыны, да сераднявечча, і тварыць формы дзяржаўнага ладу кшталтам парагвайскіх патараў, або новыя аракчэеўскія аселішчы.

Беларускі рух, як рух масавы, запачаткаваў свае існаваньне пад сьцягам сацыялізму /БСГ/ і ў далейшым сваім разьвіцьці жывіўся, фактычна, і жывіцца толькі яго ідэямі. Інакш яно й ня можа быць, бо гэтага вымагае перадусім сацыяльная структура беларускага народу. Беларускі народ ня мае сваіх вышэйшых клясаў, - свайго абшарніцтва і буржуазіі, - нат мяшчанства і тое амаль-што адсутнічае. Сёньня беларускі народ - гэта народ працоўных ля зямлі і ў нікляй меры ля фабрычнага варштату. Шлях да палепшаньня долі працоўных сёньня ёсьць толькі адзін - гэта шлях сацыялізму. Сацыялізм - гэта абарона працоўных ад вызыску, ад сацыяльна-палітычнага прыгнечаньня.

Але ў апошняе дзесяцігодзьдзе разьвіцьця беларускага руху безадказна-спэкулянцкімі чыньнікамі вытрывала вялася праца, каб зьвясьці, падмяніць паняцьце і сутнасьць сацыялізму р а д ы к а л і з м а м, гэтым пустым гукам мяшчанска-буржуазнага паходжаньня. І што найбольш сумна, дык гэта тое, што амаль ніхто не зьвяртаў увагі на гэткую кантрабанду, моўчкі згаджаючыся як-бы з рацыяй падмены сацыялізму радыкалізмам.

Далей гэтага не павінна быць! Даволі жывіцца абедкамі з мяшчанска-буржуазнага стала, калі сацыялізм дае ўзапраўдную духовую страву для ўсіх працоўных! І наша студэнская моладзь, гэта будучая інтэлігенцыя, калі яна ня хоча адарвацца ад народу, з якога яна выйшла, калі яна ня хоча апынуцца ў лягеры ворагаў кроўных інтарэсаў працоўных, - яна ня можа ня ўзыйсьці на шлях сацыялізму. Толькі гэткім чынам яна, моладзь, найлепш здолее выканаць свае павіннасьці ў адносінах да свайго народу.

Прыхіляючыся да ўзапраўднай істоты беларускага руху, яго сацыялістычных тэндэнцый, неабходна адцеміць, што ў аснову распрацоўкі і афармленьня нашага сацыялістычнага сьветапагляду мы кладзем, папершае,

1. арыентацыю не на вонкавыя чыньнікі, а выключна на творчыя сілы працоўных беларускіх грамад.

2. Перадумовай памысьнага разьвіцьця і арганізацыі сацыяльных сіл народу ўважаемо засаду п а л і т ы ч н е й д э м а к р а т ы і. Пры існаваньні гэткай перадумовы, слабыя грамадзкія элемэнты / клясы, групы.../ змогуць з найменшай затратай сіл сарганізавацца і стаць паважным, рашаючым, сацыяльна-палітычным і культурна-гаспадарчым чыньнікам.

Буржуазны сьвет дасканала зразумеў усю небясьпеку для свайго існаваньня, якая выплывае з практыкі ўзапраўднай палітычнай дэмакратыі, зразумеў, якое вялічэзнае значэньне мае гэтая засада для запрыгоненых працоўных клясаў,- найлепшым доказам гэтага ёсьць выкарыстоўваньне рэакцыйна-фашыскай сілы калі не для зьнішчэньня, дык ува ўсякім разе для далекасяглага звужэньня гэтае формы ўзаемаадносінаньняў.

Гэтая засада - палітычная дэмакратыя - ёсьць ня менш важнай у сацыялістычным сьвеце, чым у буржуазным. Сацыялізм ня ёсьць аднапалітай сацыяльна-палітычнай і філязофскай сыстэмай,- ён распадаецца на рад розных сацыялістычных канцэпцый, якія ў практыцы знаходзяцца, фактычна, у антаганістычных адносінах. Дзеля гэтага адыход ад дэмакратызму цягне за сабою, як у адным, гэтак і ў другім выпадку, гвалтоўніцкае замыканьне вуснаў усім інакш думаючым. У выніку-ж гэткае практыкі зьяўляецца абскурантызм, рэгрэс.

3. Існаваньне палітычнай дэмакратыі/пры ўмовах буржуазнага ладу/ не зьмяняе яшчэ сутнасьці сацыяльных узаемаадношаньняў - с а ц ы я л ь н а е н я р о ў н а с ь ц і. Палітычная дэмакратыя - гэта распрыгоненьне думкі, але ня людзкай працы. Распрыгоненьне-ж працы - галоўная падваліна ўзапраўднага гуманітарнага сьветапагляду, якім ёсьць соцыялізм. - Што найшырэйшы ўдзел і ініцыятыва працоўных у творчым працэсе будаваньня форм новага, больш дасканалага грамадзкага ладу мога быць зарукай паіысьнага зьдзейсьненьня вызвольных імкненьняў працуючай людзкасьці.

4. Ня мажа быць вырашана праблема сацыяльнай няроўнасьці там, дзе існуе няроўнасьць нацыянальная. Нельга супроцьстаўляць сацыяльнасьць нацыянальнасьці,- яны ўзаемна сябе абумоўлюваць!,- як няма рацыі гэтыя мамэнты і ўтоксамліваць.

Нельга супроцьстаўляць нацыянальнасьць інтэрнацыянальнасьці, бо-ж узапраўднае існаваньне апошняй залежыць ад нармальнага існаваньня і разьвіцьця першай.

Бязумоўна, гэтыя некалькі пунктаў не абхопліваюць паняцьця сацыялізму ў цэлым. Дый урэшце, пакуль-што ня так гэта важна, як тое, каб, перадусім, беларускае студэнства, моладзь, п а ч а л о працу над распрацоўкай і афармленьнем свайго сацыялістычнага сьветапагляду. Тэарытычна ўгрунтаваны сьветапагляд будзе такім цудадзейным ліхтарчыкам і компасам, што не дазволіць больш туляцца нашай інтэлігенцыі

па блудных сьцежках працы на грамадзкай ніве, як гэта было дагэтуль з пакаленьнем нашых "старэйшых" дзеячоў.

...Міч.

- - - - -

## СУПЯРЭЧНАСЬЦІ НАШЫХ ДЗЁН.

Вясна капіталістычных адносін ужо мінула. Замест далейшага разгортваньня сваіх прадукцыйна-творчых сіл, капіталізму паважна прыходзіцца думаць аб абароне свайго дасюлешняга стану. У сувязі з гэтым буржуазія адкінула шмат чаго з пастулятаў лібэральнае школы, якая была крыніцай іх жыцьцёдайнай энэргіі. Буржуазія цяпер дамагаецца і вывазных прэміяў, і мытных кардонаў, а стварэньнем трэстаў і картэляў проста намагаецца абменшыць вольную канкурэнцыю ў прамыслова-гандлёвым жыцьці. З піонэра новых гаспадарчых узаемаадношаньняў, якім зьявіўся капіталізм пасьля пагрому фэўдалізму, сёньня буржуазна-капіталістычны сьвет ператварыўся ў кансэрватара, які канвульсыйна трымаецца за ўтварыўшыся стан рэчаў. Але ў гэтым к а н с э р в а т ы з ь м е хаваецца тое, што капіталізм сам сабе рые магілу.

Пасьля сусьветнай вайны шырокія масы насельніцтва ў значнай меры зьбяднелі, а ў многіх краінах пакупная здольнасьць яго наблізілася амаль да нуля. Ад гэтага, аднак, зусім ня зьменшыліся апэтыты капіталістаў. Не зьвяртаючы ўвагі на зьмену гаспадарчай сытуацыі, яны ня думаюць адмовіцца ад ранейшых сваіх высокіх зыскаў, а ўсьцяж намагаюцца атрымліваць са згаленелага жыхарства ў такой меры, як і ў часы паямыснай гаспадарчай каньюнктуры. Пад ціскам галечы шырокія слаі насельніцтва натуральна абмежваюць свае патрэбы зьмяншаючы кансумцыю прамысловых тавараў. Пры ўмовах вольнай канкурэнцыі гэткі стан рэчаў значна зьмяншае зыскі капіталістаў. І ўсё-ж ткі, каб змусіць беднае жыхарства плаціць пажаданую дань, капіталісты манапалізуюць галоўныя галіны промыслу і гандлю шляхам картэлізацыі і трэстызацыі. Манапалізуючы выраб прамыслоўцы атрымоўваюць магчымасьць рэгуляваць яго, каб утрымаць цэны на прамысловыя тавары на пажаданай вышыні. Адным з "радыкальных" спосабаў гэткае стабілізацыі цэн ёсьць скарочваньне вырабу і абніжваньне заработнай платы. Са зьніжэньнем заработнай платы і павялічэньнем ліку безработных яшчэ больш звужаецца кола людзей, якія не пазбаўлены нармальнай пакупнай здольнасьці. Тут зусім на месцы цьверджаньне тых эканамістаў, якія кажуць, што цяпер мы перажываем ня крызіс вырабу, а крызіс спажываньня.

Дзякуючы гэтаму ў сучасным гаспадарчым жыцьці народаў можна адчувацца дыктатарская роля буржуазіі. Але як нельга разьмяжаваць культуру з палітыкай, гэтак нельга аддзяліць і гаспадарку ад палітыкі: паміж гэтымі элемэнтамі народнага жыцьця існуе цесная сувязь. І каб дыктатарскія мэтады ў гаспадарчым жыцьці далі больш сільныя эфэкты, буржуазна-капіталістычныя элемэнты намагаюцца пашырыць сваю дыктатуру і на палітыку. У выніку гэтага мы бачым, што ў шмат якіх краінах Эўропы дэмакратыя абмяжваецца ды замест яе заводзіцца самая жорсткая дыктатура.

Усё гэта, бязумоўна, кадае глыбокую прорву паміж клясамі капіталістычнымі з аднаго боку і працоўнымі - з другога. параджаючы аднача[сна] напружанае клясавае змаганьне. Апошняе можа выклікаць паўстаньне кардынальных зьмен у укладзе грамадзкіх сіл, сацыяльны катаклізм. Да гэтага пхае пераду сім сьляпая, заўзятая, жадоба зыску буржуазна-капіталістычных клясаў. У сваім эгаістычным захапленьні яны ні на што не зьвяртаюць увагі.

І калі капіталістычна-буржуазныя клясы, чуючы пад сабою цьвёрды грунт, пераважна няўважліва адносяцца да будучыні свайго ладу, дык у лягеры працуючых розных груп існуе і рознае да яго адношаньне. Некаторыя з іх трымаюцца нат тае думкі, што чым горш, тым лепш. Гэтак левыя марксісты - бальшавікі - лічаць, што сацыяльны катаклізм пры ўсякіх умовах есьць пажаданым і што да яго трэба за ўсякую цану імкнуцца. Згодна з гэткім поглядам і звужэньне палітычна-дэмакратычных правоў, і эканамічная палітыка буржуазна-капіталістычных клясаў, якая вядзе да абябрачаньня працуючых, зусім есьць на месцы, бо гэтым, маўляў, набліжаецца сьвет да сацыяльнай катастрофы.

Тэорыя катастроф - рэч старая і навуковая літаратура не нэгуе яе ў засадзе, як праўдападобную магчымасьць. Аднак было-б памылкай думаць, што гэтая тэорыя хавае ў сабе і засаду - чым горш, тым лепш.

Якія-б ні мела вынікі тая сацыяльна-палітычная барацьба якая напаўняе нашу сучаснасьць, бяспрэчным фактам есьць, што буржуазна-капіталістычны лад толькі часова - гістарычнае зьявішча. Як аджыўшы фэўдальны лад, што перашкаджаў творчаму разьвіцьцю грамадзкіх сіл, быў зьменены буржуазна-капіталістычным, гэтак і апошні будзе змушаны ўступіць месца новаму, больш дасканаламу, які больш адпавядае новаму

складу грамадзкіх сіл. Элементы новага, сацыялістычнага ладу павінны вырастаць, тварыцца,- і яны ужо твораццца,- пры умовах капіталістычнага ладу падобна таму, як апошні вырас яшчэ за існаваньня фэўдалізму. Гэтымі элементамі новае будучыні зьяуляецца каапэрацыя, самаўрады і іх розныя прадпрыемствы, прафэсыянальныя саюзы ды іншыя інстытуцыі працуючых. Усе гэтыя элементы могуць поўнасна разьвівацца толькі пры умовах шырокай дэмакратыі і адноснага дабрабыту насельніцтва. Калі-ж пры капіталістычных умовах гэткія грамадзкія інстытуцыі ня вытвараюцца, дык усякія зьмены у сацыяльным укладзе могуць пацягнуць за сабою і вялічэзныя страты матарыяльных багацьцяў, што, бязумоўна, ня ёсьць выгадным і пажаданым для ніводнае з існуючых клясаў.

Ш.

---

# ІА ПРАБЛЕМЫ САЦЫЯЛІЗМУ.

Сацыялізм, як у тэорыі, гэтак і у практыцы, сёньня знаходзіцца амаль у выключным валаданьні марксізму. Згэтуль паходзіць і найбольш пашыранае акрэсьленьне сацыялізму, што сацыялізм ёсьць уграмадзеньнем сродкаў вырабу для пляновага вядзеньня грамадзкай гаспадаркі.

Гэткае станауленьне зьместу сацыялізму, як толькі эканамічнае сыстэмы, вядзе свае паходжаньне і знаходзіць абаснаваньне у тэорыі гістарычнага матарыялізму. Клясычная фармулёўка апошняга пададзена, паводле агульнага узнаньня, К. Марксам у яго працы "Zur Kritik der politischen Oekonomie". -"У грамадзкім вырабе, каже К. Маркс, свайго жыцьцябыту людзі уваходзяць у акрэсьленыя, неабходныя, наіх волі незалежныя узаемаадносіны, адпавядаючыя акрэсьленай ступені разьвіцьця іх матарыяльных вырабных сіл. Сума гэтых вырабных узаемаадносін стварае эканамічную структуру грамадзкасьці, рэальную базу, на якой вырастае надбудова праўная і палітычная ды якой адпавядае акрэсьленая форма грамадзкай сьвядомасьці. Спосаб арганізацыі матарыяльнага вырабу узасадняе жыцьцёвы працэс сацыяльнага разьвіцьця, як палітычнага гэ-

так і духовага наагул. Сьвядомасьцю людзей не акрэсьліваецца іх быцьцё, але наадварот - быцьцё акрэсьлівае іх сьвядомасьць. На пэўнай ступені свайго разьвіцьця матарыяльныя вырабныя сілы грамадзкасьці прыходзяць у супярэчнасьць з існуючымі уласьніцкімі ўзаемаадношаньнямі, у якіх аж да гэтага часу разьвіваліся. З паступовых формаў вырабных сіл абяртаюцца гэтыя ўзаемаадносіны ў іх ланцугі, наступае пэрыяд сацыяльнай рэвалюцыі. Аднэчасна са зьменай эканамічнай асновы зьмяняецца і ўся вагромністая надбудова... Ніякая грамадзкая арганізацыя ня зьнікае аж пакуль да адпаведнай вышыні не разаўюцца ўсе вырабныя сілы, дзеля чаго ёсьць даволі прасторная, а новыя вышэйшыя вырабныя ўзаемаадносіны ніколі ня прыходзяць на яе мейсца раней, чым у старым грамадзянстве яе жыцьцёвыя засады ня былі ўжо падгатаваны" - / ст. XI, выд. Каўцкага/. Яшчэ больш канкрэтызуе гэтую сутнасьць гістарычнага матарыялізму Фрыдрых Энгэльс. Ён цьвердзіць, што „выраб, а пасьля вырабу абмен прадуктаў вырабу ёсьць асновай грамадзкага ладу: у кожным гістарычна выступаючым грамадзянстве разьмеркаваньне прадуктаў вырабу а з ім дзяленьне грамадзянства на клясы кіруецца тым, што хто і як вырабляе і як прадукты вырабу абменьвае. Дзеля гэтага апошнюю прычыну ўсіх зьмен, адбываючыхся у грамадзянстве, трэба шукаць, гэта ды палітычных рэвалюцый мусім шукаць не ў галовах людзей, у іх узрастаючым веданьні вечнае праўды і справядлівасьці, але ў зьмене спосабу вырабу ды абмене прадуктаў вырабу" (-"Dühring", ст.286 ).

Калі ўважліва разабрацца ў гэтым выяўленьні выключнай залежнасьці структуры грамадзянства толькі ад эканомікі, то пабачым тут некаторыя далекасяглыя супярэчнасьці. Узнаючы правільным пастулят школы гістарычнага матэрыялізму,- што той і іншы стан грамадзянства адумоўлюецца вырабнымі ўзаемаадносінамі, незалежнымі ад волі людзей,- незразумелым, аднак, зьяўляецца, як гэта „на пэўнай ступені свайго разьвіцьця матарыяльныя вырабныя сілы грамадзкасьці прыходзяць у супярэчнасьць з існуючымі уласьніцкімі ўзаемаадносінамі." Паскольkі мы ўзнаем, што ўзьнік тых ці іншых вырабных узаемаадносін незалежны ёсьць ад волі людзей, ясна, што ад во-

лі людзей незалежным павінна быцці далейшае разьвіцьцё гэтых узаемаадносін, таксама, як і ўсе супярэчнасьці, якія з бегам часу могуць паўстаць у гэтых узаемаадносінах. Выходзіць паводле канцэпцыі гістарычнага матэрыялізму, што вытворчыя ўзаемаадносіны родзяцца самавольна, залежнымі на самых сабе, мэханічна, як-бы з ласкі боскай. Дзеля чаго-ж тады ўводзіць мэлёдэклямацыю аб надбудоўках /ідэалягічных/, якое яны могуць мець рэальнае значэньне ў справе „зьменаў спосабаў вырабу ды абмену прадуктаў вырабу," калі апошнія – незалежны ад волі людзей?– І.сам выраб, і абмен прадуктаў вырабу прадбачае наагул існаваньне людзей і задаваленьне іх інтарэсаў і патрэбаў. Там-жа, дзе ёсьць інтарэсы і патрэбы, аднячасна ёсьць і жаданьні людзей, ёсьць і рэгулятар гэтых жаданьняў – воля. Выключнаваньне волі і сьвядомасьці людзей і іх уплываў на ўзнік вытворчых узаемаадносін грамадзянства хавае ў сабе ня толькі абстрактна-лягічную супярэчнасьць, але і фактычную.

Найлепшую ілюстрацыю супярэчнасьцяў, якія хаваюцца ў тэорыі гістарычнага матэрыялізму дае разьвіцьцё падзей і стан рэчаў на Ўсходзе Эўропы пасьля рэвалюцыі 1917 году. Апошняя прынясла ня толькі зьмену сыстэмы палітычнага ладу і эканамічных узаемаадносін, але і зьвяла сацыялізм з вышын тэарэтызаваньня да ролі практычна-канструкцыйнай і арганізацыйнай сыстэмы ўсяго жыцьця насельніцтва аднэй з вялічэзных дзяржаваў сьвету. На б. абшарах Расіі была эруйнавана буржуазна-капіталістычная сыстэма ўзаемаадносін і праклямавана – сацыялістычная. Новая сыстэма вытворчых узаемаадносін у СССР прыйшла не сама сабою, не міма „волі людзей," але сталася насільна накінутай нязначнаю меншасьцю народу вялічэзнай большасьці. Факт існаваньня новае сыстэмы вытворчых узаемаадносін у СССР пярэчыць аднячасна і другому цьверджаньню гістарычнага матэрыялізму,– што „ніякая грамадзкая арганізацыя не зьнікае аж пакуль да адпаведнай вышыні не разаўюцца ўсе вытворчыя сілы..., а новыя вышэйшыя вытворчыя ўзаемаадносіны ніколі ня прыходзяць на яе месца раней, чым у старым грамадзянстве яе жыцьцёвыя засады ня былі ўжо надга-

таваны. Але няма жадных падставаў цьвердзіць, што на абшарах б. расійскай імпэрыі на пярэдадні рэвалюцыі вырабныя сілы былі разьвіты да адпаведнай вышыні, што ўва ўмовах старога ладу былі ўжо падгатаваныя новыя вышэйшыя вырабныя ўзаемаадносіны, калі ўсюды панаваў яшчэ гаспадарчы прымітывізм, а большасьць насельніцтва знаходзілася ў стане бязграматнасьці. Бальшавізм, як той Пятро Вялікі, „вздернул твердою рукой" масы і пагнаў іх да новых формаў узаемаадносін, зусім зьнягуючы засады свайго радзімага гістарычнага матэрыялізму.

Фактам ёсьць, што ў б. Расіі адбылася ня толькі палітычная, але і сацыяльна-эканамічная рэвалюцыя. У выніку апошняй там сталіся зьнішчанымі цэлыя клясы /абшарніцтва, буржуазія/, зьменена сыстэма эканамічных узаемаадносін. Але розныя непаводжаньні ў нармальным функцыяваньні сыстэмы новых вырабных узаемаадносін змусілі кіраўнікоў дзяржаўнага жыцьця СССР падняць голас яшчэ аб новай рэвалюцыі на абшарах СССР - рэвалюцыі культурнай, псыхічнай. Яно інакш і не магло быць, бо новыя эканамічныя ўзаемаадносіны прадбачаюць адначасна і новую, адпаведную ім, псыхіку людзей, новую культурнасьць грамадзянства. А гэтым яшчэ лішні раз падкрэсьліваецца той мамэнт, што нельга зводзіць сацыялізм да ролі эканамічнай сыстэмы. Бязумоўна нельга ў ніякім выпадку ігнараваць ролю эканомікі ў жыцьці людзей, але і нельга яе фэтышызаваць. Сацыялізм,- які можа прыйсьці толькі ў выніку арганізаванай волі і сьвядомасьці шырокіх мас народу, а ня сам сабою, і з ласкі боскай,- ёсьць значна шырэйшым, б больш складаным зьявішчам, чым гэта здаецца заступнікам гістарычнага матэрыялізму. Ён мае на мэце грунтоўнае пераўтварэньне ўсіх людзкіх узаемаадносін, як эканамічных, гэтак і этычных, бытавых, і наогул культурных, якія стала знаходзяцца ў цеснай узаемнай сувязі. Радыкальная зьмена адной катэгорыі з гэтых узаемаадносін ня можа адбыцца незалежна ад рэшты.

Па нашу думку сацыялізм ёсьць такая сыстэма арганізацыі

гаспадарчага і культурнага грамадзкага ладу, якая, пры засадзе прыроднай роўнасьці правоў і абавязкаў людзей, забесьпячала-б найбольшую магчымасьць усебаковага разьвіцьця як асобнай, гэтак і калектыўнай чалавечай індывідуальнасьці, выключаючы элемэнты ўціску.

-міч.

На сьпяваючых палозьзях
Па раўніне серабрыстай
З бомаў песьняй урачыстай
К нам ня едзе Новы Год.
Неспадзевак не прывозе...
З ношай цяжкаю сталецьцяў
Год стары - старое сьмецьце -
Замятае ля варот.
Хоць мясцамі жаль чуецца -
Па мінулым плачуць людзі -
Ён, кульгаючы па грудзе,
Да свaей брыдзе мяжы.
Спатыкайце людзі сьвятла
І жадайце з Новым Годам,
Каб жыцьцё плыло вам мёдам!
Толькі, Божа сьцеражы,
Не паддайцесь спакушэньню
Сваіх думак гнілых, сьмелых,-
Думкі злыя на сьвет белы
Не выносьце з чорных хат!
Там трапчаць сьвятыні сьцены -
Старыны вы пажалейце
І паддайце доўг Крывейце,
Што стары пільнуе лад!..

---

Хай ніхто з нас не засьпіцца.

Як на ўсходзе ўстане золак -
Расчырвоніць месты й сёлы

.......................

---

Праз зъдзьвіўшых дзён граніцу -
На свабодных дум сьвітаньні -
На шлях новага змаганьня
Ўсходзе Новы Год.

1933. К.Л.

. . . .

..

Гукі п'янай румбы чую,
Як на вулкі места выйду я.
На руку жабруючую
Аўтабус балота кідае.

Даганяе тратуарам
Здань кабеты - жуць зялёная,
З чорным сьцягам над папарам
Паплыве вяской загонамі.

Скомліць... злосьці іскра тліцца
Пад сьняжнёвай сьцюжай, сьлякацьцю;
А магла-б яна быць львіцай. -
Сяньня-ж - трэба енчыць, плакаць.

Можна было-б скончыць проста
З сьцежкай цяжкаю і горам
Толькі - штось цяжкая ростань
Пад надзеі загаворамі.

На вагромным цыфэрбляце
Палец часу стрэлку совае
Да дванаццатай... На пляцы
Паліцэйскі з палкаю гумоваю.
Вільня 1932. К.Н.

# Х Р О Н І К А.

- Агульны гадавы сход Беларускага Студэнскага Саюзу адбыўся дн. 20.XI. мін. году, на якім быў выбраны новы урад: старшыня – Я. Давідовіч, сябры ураду – М.Малючанка, В.Войтанька, П.Пердукевіч, А.Аніська; рэвізійная камісія: старшыня – М.Гулейка, сябры – п.Гаўрылічанка і Я.Хвораст. Сябром БСС забаронена належаць да Карпарацыі "Скорініа".

- Агульны гадавы сход Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры У.С.Б. быўскліканы дня 11.XII м.г., на якім становішча старшыні і надалей даручана Ст.Станкевічу.

- Філязофія трэцяга пакаленьня беларускага думаючага жыцьця. на гэту тэму 10.XII м.г. выступіў з рэфэратам у Бел.Ст.Саюзе д-р Фр.Грышкевіч, нядаўна вярнуўшыся з Прагі. ня гледзячы на тое, што дакладчык так і ня выявіў сутнасьці "філязофіі трэцяга пакаленьня", аднак сваім рэфэратам выклікаў рэдкае ў нас зацікаўленьне і гарачую дыскусію.

- У зьвязку з адбыўшымся новым уздоймам антысэміцкіх забурэньняў эндэцкі "Братняк" У.С.Б. склікаў дн. 2.XII м.г. веча з дамаганьнем правядзеньня ў жыцьцё "нумэрус кляўзус" у адносінах да жыдоўскага студэнства, зьвяртаючыся адначасна з заклікам да ўсяго "хрысьціянскага" грамадзянства ня толькі да эканамічнага, але нават і таварыскага байкоту жыдоў. Як адказ на гэтае веча, дн. 14.XII м.г. склікала свае веча паступовая частка студэнскай моладзі, на якім была прынята пастанова, кляймуючая рэакцыйныя пачынаньні эндэкаў, з дамаганьнем раўнапраўнасьці для нацыянальных меншасьцяў на унівэрсытэце.
- "Студэнская Трыбуна"-гэтак завецца орган бел.хадэцкіх студэнтаў, які ад лістапада м-цам.г. пачаў выходзіць на шпальтах "Беларускай Крыніцы".
- "Студэнскі Кліч".-Пад такім назовам канцом м.акад.г.група левага бел.студ.выдала аднаднёўку на гэктографе, якая была уладамі канфіскавана.
- Арышты.-дн. 1.XII м.г. быў арыштаваны к.Я.Бурак, зВольнены 21.XII м.г.—Арыштаваны ў ліпні м-цы м.г. к.Янка Касяк знаходзіцца яшчэ на "Лукішках".

**Dla zvalnienia jaho zymahajecca 300 zl. kaŭcji.**

---

**Redaktar-Vydaviec Ādnien Aniśka.**

**Adres Redakcyi: Stefańska 39 - 17.**